

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.**
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 486 Ліпень 2003 г.**
Год выданьня 53

## Слова разьвітаньня

Дарагі Васіль Уладзімеравіч! Слова, якое тут прамаўляецца, гаворыцца з далечыні, з-за далёкага акіяну, адкуль не далятае голас. Але Вы можаце чуць мае словы ўдзячнасьці й павагі.

Вы стварылі вялікую культуру. Сваёю творчасьцю Вы ўзьнялі высока наш беларускі гонар і пакінулі нам ягоную вышыню.

У Вашай асобе новае беларускае Адраджэньне мела праўдзівую апору. Вы зрабілі выбар для Беларусі, не азіраючыся на Маскву, не пакідаючы запасных шляхоў. Вы падтрымалі стварэньне Беларускага Народнага Фронту і сталі ў ягоных шэрагах як Сьцяг. І мы разумелі мэту варожых атакаў.

Мы нячаста сустракаліся з Вамі нават у бурны час нашай нацыянальнай рэвалюцыі, калі вярнулі незалежнасьць. Але я бачыў і адчуваў спагадную прысутнасьць Вашай асобы ў маім лёсе, бо заўсёды на стромкай дарозе, над прорваю, над тваньню недзе побач, недзе тут - быў Быкаў, на слова якога можна было абаперціся, як на рыцарскае кап'ё.

Дзякуй Вам, дарагі Васіль Уладзімеравіч!

Хай сьняцца Вам сьветлыя сны аб вольнай Беларусі, якой Вы не дачакаліся. Але яна вернецца, стане, будзе, жыцьме ня толькі ў снах.

Мы вернем яе ў сіле і сьветазарнасьці. Верым, так будзе і ня згіне ніводнае слова.

О, шчасьлівая Беларуская Зямля, прыймі свайго сына навечна!

*Зянон ПАЗЬНЯК*
*Старшыня БНФ "Адраджэньне*



## Развагі на сьмерць Васіля Быкава

На 80-м годзе жыцьця 22-га чэрвеня памёр вялікі беларускі пісьменьнік і вялікі беларус Васіль Быкаў.

У беларускай і сусьветнай літаратуры творчасьць Быкава - гэта цэлы накірунак, адкрыцьцё для сьвету. Быкаў вобразна выявіў і псыхалягічна, па-мастацку адлюстраваў лёсы беларусаў і лёс народу на вайне і ў часы бальшавіцкага ліхалецьця. Быкаў узьняў наш народ над усім сьветам, паказаў веліч ягонага духу, ягоную моц і адначасна абазначыў прычыны трагедыі ягонага нацыянальнага існаваньня. Быкаў у сваёй творчай паставе глядзеў на Беларусь (як трапна заўважыў др. Вітаўт Кіпель) па абодва бакі фронту. Таму яго і называлі сумленьнем нацыі.

Быкаў трымаўся вельмі годна. Асабліва, калі ў канцы 80-х пачалася нашая нацыянальная рэвалюцыя, і ён стаў у шэрагі адраджэнцаў. Гэта ўзьняло ягоны вобраз сярод беларусаў і зьбянтэжыла акупантаў ды няшчырых сяброў беларушчыны.

Бальшавікі ды іхны "перадавы атрад" - КГБ - перасьледвалі Быкава, але не змаглі зьнішчыць. Ён для іх, гэтак-жа, як некалі Янка Купала, быў не па зубах. Купалу, заваблўшы ў Маскву, яны потым забілі, а Быкаву стварылі невыносныя, хамскія ўмовы на Бацькаўшчыне і вымусілі да эміграцыі.

З часу стварэньня Народнага Фронту ў нас быў супольны шлях. Але мы вельмі берaглі Быкава, ніколі не выстаўлялі яго ў палітыцы, каб не наразіць на зьнявагі нікчэмнасьцяў, на правакацыі агентуры, на фамільярнасьць дурняў. Гэта мы ўсе стараліся браць на сябе. Мы ніколі не забываліся, што Быкаў вялікі пісьменьнік. Мы ніколі не забываліся пра ягоную павагу і аўтарытэт. Нам дастаткова было, што ён з намі.

І вось яго няма. Няма больш Быкава. На пахаваньне вялікага беларуса, 25-га чэрвеня, прыйшлі тысячы, моц народу. Ягоную труну накрылі Беларускім бел-чырвона-белым нацыянальным сьцягам, яе несьлі на руках над морам людзей.

І нават цяпер, калі пішуцца гэтыя радкі, ідуць і ідуць людзі няспынна на Ўсходнія могілкі ў Менску, каб пакланіцца ягонай магіле.

Сьмерць Быкава вельмі яскрава адлюстравала сытуацыю ў Беларусі. З аднаго боку ўзрушаны народ, які прыйшоў правесьці ў апошні шлях свайго вялікага пісьменьніка. З другога - кучка выжылай з розуму антыбеларускай улады, якая адмовілася ўзяць удзел у пахаваньні й разьвітаньні з Быкавым, бо ненавідзела беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, які тут быў паўсюдна з чорнымі стужкамі. "Улады" ў асобе міністра культуры й генэралаў, убачыўшы беларускія нацыянальныя сьцягі, заявілі, што яны пакідаюць жалобнае разьвітаньне. Забралі нават свой афіцыёзны катафалк, а Лукашэнка свой няшчыры вянок. Праўда, назаўтра, пасьля пахаваньня, гэты вянок з надпісам па-расейску "Президент Республики Беларусь А. Г. Лукашенко" зьявіўся ўжо на Ўсходніх могілках, і каля яго выстаўлялі варту.

Вось такая фантасмагорыя нядобрых і недалёкіх людзей. Сымптаматычна, што нікчэмныя паводзіны існуючай улады нікога не абурылі. Мауляў, што зь іх возьмеш, самыя сябе прынізілі, паказалі сваю сутнасьць і ўзровень.

Цяпер усё стаяць перад вачыма размовы з Быкавым, ягоная прысутнасьць, агульныя справы... стварэньне Народнага Фронту ў 1988-м годзе, клопат пра Курапаты, зьезды й соймы БНФ, сумесныя паездкі па Беларусі й, нарэшце, эміграцыя.

Мы меркавалі зь Сяргеем Навумчыкам (які быў найбліжэйшаю асобаю да сям'і Быкава на эміграцыі), што я прыеду ў Прагу ў сярэдзіне сакавіка (яшчэ перад апэрацыяй Быкава). Не атрымалася. Зацягнулі зь візаю. Потым запланаваныя паездкі ў Вільню, Нью Ёрк.

Апошні раз мы размаўлялі з Быкавым па тэлефоне вечарам у чацьвер 5-га чэрвеня перад палажэньнем яго ў Бараўлянскі шпіталь. Голас ягоны быў вельмі сумны, казаў, што апэрацыя ў Празе не дапамагла, робіцца горай.

Толькі калі я паклаў слухаўку, я зразумеў, што Быкаў прыехаў у Менск назаўсёды, ведаючы пра гэта сам.

За тыдзень да сьмерці яму стала лепш, і мы зь сябрамі радаваліся паляпшэньню, мелі спадзяваньні.

Беларусы ў Амэрыцы балесна ўспрынялі жалобную вестку. 29-га чэрвеня ў царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку адбылася памінальная служба, паніхіда за супакой душы Васіля Быкава. Айцец Вячаслаў Логін сказаў казань перад людзьмі, расказаў пра творчую веліч, жыцьцёвы шлях і пахаваньне вялікага пісьменьніка.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

### СПАЧУВАНЬНЕ

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ды Кааліцыя ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі выказваюць сям'і сьветлай памяці Васіля Быкава і ўсім, хто смуткуе з прычыны ягонай сьмерці, шчырыя спачуваньні.**

**Памяць пра памерлага будзе вечнай, бо Васіль Быкаў як беларус і як пісьменьнік паставіў свой шчодры талент і сваю валатоўскую працавітасьць на службу вечна каштоўным ідэалам - мастацкай праўдзе ды чалавечай і нацыянальнай годнасьці.**

**Васіль Быкаў, як ніхто з папярэднікаў, паставіў на мапу сьвету імя Беларусі ды імкненьні беларусаў да свабоды, дэмакратыі й дабрабыту.**

**Імя Васіля Быкава будзе вечна жыць у сэрцах нашчадкаў. Па кнігах пісьменьніка яны будуць пазнаваць мінуўшчыну свайго народу у ягонай абароне няўміручасьці Бацькаўшчыны.**

*Вітаўт Кіпель, Антон Шукелойць*
*Аляксандар Сільвановіч, Янка Запруднік*

### Спачуваньне- разьвітаньне з Васілём Быкавым

**Трагічная вестка прыйшла да беларусаў Канады.**

**Вялікім болем яна адгукнулася ў нашых душах.**

**Перастала біцца Сэрца Васіля Быкава.**

**Сэрца - якое асьвятляла Шлях усім беларусам, дзе-б яны ні жылі.**

**Тут за мяжой, у шматнацыянальнай Канадзе, мы ганарымся, што мы - суайчыньнікі Васіля Быкава.**

**Ён - наш нацыянальны гонар, нашае сумленьне і нашая памяць.**

**У гэты трагічны для нас час, сябры Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе схіляюць галовы й далучаюць свае глыбокія спачуваньні да галасоў з усіх канцоў сьвету ў падтрымку жонкі, Ірыны, і ўсіх родных і блізкіх Васіля Быкава, тых хто ведаў і любіў яго і ягоныя творы.**

**Ваш боль - наш боль.**

*Старшыня БІНіМу ў Канадзе: Зіна Гімпелевіч*
*Сакратар БІНіМу ў Канадзе: Ірына Варабей*

**Рэдакцыя газэты "Беларус", аддзелы БАЗА ў Агаё і Нью Ёрку далучаюцца да спачуваньняў, выказаным родным і блізкім Васіля Быкава, з нагоды ягонае сьмерці.**

# "Беларускі дзень" у Кангрэсе ЗША

Ідэя правесьці "Беларускі дзень" у Кангрэсе была выказаная кангрэсмэнам Стывенам Лятарэтам у час спатканьня зь ім беларусаў 28-га траўня, пра якое ўжо паведамлялася ў травеньскім нумары "Беларуса".

Сутнасьць мерапрыемства ў тым, што ў Кангрэс прыяжджае грамада беларусаў з розных штатаў і на працягу аднаго дня, разьмеркаваўшыся, спатыкаецца па чарзе з шэрагам ужо падрыхтаваных кангрэсмэнаў, якім выкладае свае меркаваньні й пажаданьні па пэўных пытаньнях.

Ідэя правядзеньня "Беларускага дня" нам вельмі падыходзіла і вынікала з двух задачаў. Найперш, знайсьці падтрымку (і галасы) амэрыканскіх кангрэсмэнаў для "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі", праект якога акурат знаходзіцца ў Кангрэсе і будзе разглядацца ў верасьні-кастрычніку. Наступнае - агульнаю мэтаю: здабыць актыўнае пацьверджаньне гарантыяў незалежнасьці Беларусі з боку Амэрыкі ў сувязі з далейшым разгортваньнем расейскай палітыкі па інкарпарацыі Беларусі, падрыхтоўкаю да ліквідацыі беларускіх грошай і да чарговага антыканстытуцыйнага рэфэрэндуму па фактычнай анэксіі Беларусі (прыняцьце так званага "канстытуцыйнага акту").

Тут трэба нагадаць, што ў сьнежні 1994-га году ў Будапэшце на сэсіі АБСЭ тры краіны: ЗША, Вялікабрытанія і Расея - падпісалі мэмарандум (пасьля таго, як Беларусь адмовілася ад ядзернай зброі) аб гарантыях сувэрэнітэту Беларусі й абавязаліся быць ягонымі гарантамі ў выпадку ўзьнікненьня пагрозы дзяржаўнай незалежнасьці. Гэтая пагроза якраз і павялічылася з боку аднаго з "гарантаў" - Расеі. У размовах з кангрэсмэнамі (у прыватнасьці з Рашам Голтам) мы асабліва акцэнтавалі ўвагу на тым, што Расея ня можа быць пасярэднікам у дачыненьнях зь Беларусьсю, бо яе інтарэсы вялікадзяржаўныя, накіраваныя супраць нашай незалежнасьці. Амэрыканскія палітыкі, якія спадзяюцца на Расею, ня ўлічваюць гэтага.

Каб падрыхтаваць "Беларускі дзень" у Кангрэсе як збалянсаванае мерапрыемства патрэбна мінімум два месяцы. У нас жа было максімум два тыдні, бо, фактычна, з 23-га чэрвеня кангрэсмэны пачынаюць разьяжджацца на вакацыі. Збольшага нашыя актывісты пасьпелі папрацаваць толькі ў двух штатах (Нью Ёрку і Нью Джэрзі), падрыхтавалі мэмарандумы, заявы, паведамленьні, інфармацыю.

17-га чэрвеня ў Вашынгтоне адбыліся заплянаваныя сустрэчы. Восем беларускіх прадстаўнікоў абышлі восем дэпутацкіх офісаў і спаткаліся з шасьцю кангрэсмэнамі, перадалі дакумэнты й інфармацыйныя матар'ялы. (Кангрэсмэн Палён пры гэтым згадзіўся ўзяць удзел у беларускім сьвяце ў Гайленд Парку (у царкве) у сярэдзіне ліпеня.)

У Кангрэс езьдзілі Вітаўт Кіпель, Юрка Азарка, Вячка Станкевіч, Віталь Зайка, Уладзімер Кадола, Уладзімер Шчэрбацэвіч, Натальля Гаршкова, Зянон Пазьняк.

Меркаваліся таксама спатканьні з кангрэсмэнамі беларускай дэлегацыі штату Агаё. Гэтая праграма была выкананая часткова. Тут, як, зрэшты, і паўсюдна - галоўная праца яшчэ наперадзе.

Назаўтра, 18-га чэрвеня, мы са сп. В. Кіпелем мелі зьместоўную размову ў Дзяржэпартамэнце са сп. Майклам Уяхарам, а напярэдадні з добра знаным у беларускім і ўкраінскім асяродзьдзі сп. Арэстам Дэйчакіўскім.

Падсумоўваючы ўсе праведзеныя візыты й перамовы, можна сказаць, што пакладзены добры пачатак. Усюды мы знайшлі прыхільнасьць у пытаньнях, якія ставіліся. Зразумела, што трэба працягваць працу ў гэтым кірунку. Кангрэсмэны абяцалі падтрымаць "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі". А гэта галасы ў беларускі актыў.

"Беларускі дзень" добра было-б праводзіць кожны год і арганізоўваць яго загадзя з шырокім прадстаўніцтвам.

*Зянон ПАЗЬНЯК*



*На здымку: дэлегацыя нью ёркаўцаў у офісе кангрэсмэна Фрэнка Палёна, стаяць зьлева направа З. Пазьняк, В. Кіпель, Ю. Азарка, У. Кадола, Ф. Палён, В. Станкевіч, В. Зайка, А. Шчэрбацэвіч, Н. Гаршкова.*

# Беларусы з Агаё ў Вашынгтоне

На працягу 18-19 чэрвеня, у Кангрэсе і Сэнаце ЗША гаварылі пра беларускія справы. Дзякуючы падтрымцы кангрэсмэна Лятарэта і намаганьням кіраўніка агаеўскага аддзелу БАЗА Паула Васілеўскага група маладых людзей з Кліўленду правяла сустрэчы ў 14 офісах кангрэсмэнаў і 2 сэнатараў ад штату Агаё.

Былі праведзеныя размовы пра сытуацыю ў Беларусі, пра жыцьцё беларускай грамады ў Агаё, пра надзеі й спадзяваньні амэрыканскіх беларусаў. Кангрэсмэнам былі перададзеныя рэзалюцыі канфэрэнцыі, праведзенай БАЗА 3-4-га траўня ў Кліўлендзе, аб падтрымцы незалежнасьці й дэмакратыі ў Беларусі, аб беларускіх палітычных эміграантах, мэмарандум БАЗА, інфармацыя аб беларускай дыяспары ў Агаё.

Сустрэчы ў офісах законатворцаў былі пленнымі ў сэнсе адукацыі законатворцаў і іхных дарадчыкаў, бо інфармаванасьць іх аб Беларусі была не на вельмі высокім узроўні. Пасьля сустрэчаў у кожным офісе зьявілася папка ці кампутарны фолдэр з інфармацыяй пра нашую Бацькаўшчыну.

Асабліва цёпла сустрэлі дэлегацыю ў офісе сэнатара Вайновіча, які многія гады зьяўляецца прыхільнікам беларусаў. Сэнатар паабяцаў прыкласьці ўсе свае намаганьні, каб Беларусь не заставалася ўбаку ад дэмакратычных працэсаў, якія праходзяць у паст-сацыялістычных краінах Усходняй Эўропы. Вельмі прыхільна паставіліся да беларусаў і ў офісе сэнатара Дэвайна.

Зь вялікаю ўвагаю выстухалі беларускую дэлегацыю кангрэсмэн Джон Бонэр, кангрэсвумэн Стэфані Тубс Джонс. Але найбольшая неспадзяванка чакала ад кангрэсвумэн Марсі Каптур, якая адразу далучылася да групы суспонсараў Акту аб дэмакратыі ў Беларусі.

За два дні, праведзеныя ў Кангрэсе і Сэнаце, маладыя людзі атрымалі добрую практыку лабіраваньня. Акрамя таго атрымалі добрыя парады й адчулі падтрымку і разуменьне ад дарадцы Камісіі па Бясьпецы й Супрацоўніцтву ў Эўропе сп. Арэста Дайчакіўскага.

Добрыя спадзяваньні выклікала сустрэча ў Дзяржаўным дэпартамэнце з кіраўніком беларускага "стала" сп. Майклам Уягарам, які нядаўна вярнуўся зь Беларусі, дзе быў уражаны гасьціннасьцю беларусаў і прыгажосьцю прыроды. Шмат спадзяваньняў зьвязваецца з новым амбасадарам ЗША ў Беларусі, якога ў гэты дзень слухалі ў Кангрэсе. Сп. Уягара паабяцаў арганізаваць сустрэчу з новым амбасадарам.

Шмат чаго цікавага яшчэ распавядуць яшчэ ўдзельнікі агаеўскай дэлегацыі пра сваю паездку, скарыстаўшы нагоду сьвяткаваньня Купальля ў цэнтры "Полацак" ў Стронгсвіле.

*Сяргей ВАСІЛЁЎ*



*На здымку: агаеўцы размаўляюць з Майклам Уягарам (другі зьлева).*

# Гадавы зьезд ЗБВБ

Гадавы агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі прайшоў сёлета ў 57-ы раз. Сабраўся ён 31-га траўня ў залі Беларускага культурна-рэлігійнага цэнтра ў Лёндане пры 39 Holden Rd.

Зьезд адкрыла ўступаючая Старшыня ЗБВБ Лёля Міхалюк. У Прэзыдыюм зьезду былі выбраныя: старшыня М. Швэдзюк і сакратары І. Лабацэвіч і І. Іваноў. Сп. С. Пяткевіч прачытаў пратакол з папярэдняга зьезду, які быў прыняты. Справаздачу Нагляднай Рады прачытаў сп. Швэдзюк. Спн. Л. Міхалюк ад імя ўступаючай Галоўнай Управы дала справаздачу дзейнасьці арганізацыі за мінулы год. Дзейнасьць гэтая адбывалася ня толькі ў Англіі, але і за яе межамі. Яна распавяла пра падарожжы ў Беларусь, Летуву і Бэльгію, пра сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў у гэтых краінах, пра шырокую дзейнасьць Харытатыўнай арганізацыі пры ЗБВБ. Таксама нагадала пра прыняцьце ў ангельскім Парлямансе, арганізаваным Беларуска-Ангельскім таварыствам, на якім былі прысутнымі, апрача мясцовых беларусаў, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і запрошаныя госьці зь Беларусі.

Справаздачу скарбніка даў сп. Пяткевіч. Усе справаздачы былі прынятыя зьездам з падзякаю.

У новую Галоўную Управу ЗБВБ абралі: старшыня Л. Міхалюк, заступнік старшыні П. Шаўцоў, сакратар М. Пачкаеў, скарбнік С. Пяткевіч, сябра ўправы Джоан Дзейка. У Наглядную Раду выбраныя: Калінін, В. Еўдакімаў, М. Швэдзюк.

Пасьля закрыцьця зьезду прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн і былі запрошаныя ўзяць удзел з чаркаю віна ў прыняцьці, смачныя стравы да якога прыгатавалі паважаныя жанчыны.

*М. БАЯРОЎСКІ*

# Беларусы ў Сібіры

У горадзе Навасібірску 5-га чэрвеня сёлета адбылося адкрыцьцё Беларускага Культурнага Цэнтру імя Еўфрасіньні Полацкай. Заснавальнікамі яго выступілі Панасюк Іван і Навасібірская праваслаўная епархія. На гэту прэзэнтацыю прыехала шмат гасьцей зь Беларусі й прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Расеі.

Аднымі з найважнейшых справаў, якія зрабіў Цэнтар, можна лічыць пабудову царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, правядзеньне дзён беларускай культуры, прысьвечаных 110-годзьдзю Навасібірска, правядзеньне традыцыйных беларускіх сьвятаў. У хуткім часе плянуецца адкрыцьцё беларускага тэлевізыйнага каналу.

*Мікола КРЫЎКО*

# Беларусь за месяц

## Пахаваньне Быкава

Васіль Быкаў памёр увечары 22-га чэрвеня ў 62-угодкі пачатку нямецка-савецкай вайны.

Дзяржава плянавала, што клопаты возьме на сябе камісія на чале зь міністрам культуры Леанідам Гулякам. Аднак з раніцы 25-га чэрвеня, калі ў Доме літаратара паставілі труну зь целам пісьменьніка і крыж, прадстаўнікі дзяржавы ўсталявалі побач чырвона-зялёны сьцяг. Удава пісьменьніка папрасіла прыбраць лукашэнкаўскі штандар, а сын Сяргей накрыў цела бацькі белчырвона-белым сьцягам. Пасьля гэтага афіцыйныя прадстаўнікі дэманстратыўна пакінулі Дом літаратара. Лукашэнка-ж у гэты дзень не знайшоў у сабе мужнасьці прыйсьці й зьехаў у Сьветлагорскі раён.

Да Дому літаратара прыйшлі дзясяткі тысяч чалавек - студэнты, пэнсіянэры, бізнэсоўцы, інтэлігенцыя, рабочыя, акрэдытаваныя ў Менску амбасадары эўрапейскіх дзяржаваў, палітыкі. Былі дэлегацыі пісьменьнікаў з Расеі, Украіны, Летувы, Польшчы. Каб разьвітацца з клясыкам нацыянальнай літаратуры трэба было адстаяць у чарзе 2-3 гадзіны. З-за такой вялікай колькасьці народу - па розных ацэнках у акцыі ўзяло ўдзел ад 30 да 50 тыс. чалавек - грамадзянская паніхіда была перанесеная амаль на гадзіну.

Той, хто ня здолеў разьвітацца з Быкавым у Доме літаратара, праводзіў яго на праспэкце Скарыны. Труну зь целам пісьменьніка каля 10 тысяч чалавек суправаджалі да Ўсходніх могілак. Над працэсіяй луналі дзесяткі нацыянальных сьцягоў. Гэта быў адзіны выпадак за апошнія гады, калі міліцыя не арыштоўвала за "незарэгістраваную сымболіку". Не рашыліся.

Затое ўвечары Беларускае тэлебачаньне пачало зводзіць рахункі. Сюжэт пра сьмерць Быкава быў паказаны толькі на 25-й хвіліне галоўнай інфармацыйнай праграмы "Панарама", пасьля падрабязнай справаздачы з наведваньня Лукашэнкам Сьветлагорскага цэлюлозна-папяровага камбінату, рэпартажу з Іраку і сюжэту пра паляваньне ў Талачынскім раёне. У сюжэце пра пахаваньне яшчэ раз прайшліся па апазыцыі, якая - бачыце - не захацела па-людзку пахаваць так горача любімага ўладамі пісьменьніка. Прагучала нават фраза: "Труну цягалі па горадзе да позьняга вечара".

У Беларусі так і не была абвешчаная афіцыйная жалоба, у дзень пахаваньня Быкава па тэлеканалах ішлі забаўляльныя праграмы. Канал ОНТ наагул шырока адзначыў гадавіну сваёй працы. У той час як жалобная працэсія рухалася пр вуліцах да Ўсходніх могілак на Кастрычніцкай плошчы, амаль пад вокнамі прэзыдэнцкай адміністрацыі, на ўсю моц грымела вясёлая музыка.

А выпадак затрыманьня актывістаў КХП-БНФ у Віцебску наагул ня мае апраўданьня. 25-га чэрвеня актывісты КХП - БНФ і БСДП "Народная Грамада" сабраліся на Плошчы Свабоды, каб ушанаваць памяць пісьменьніка. Яны трымалі бел-чырвона-белы сьцяг з чорнаю стужкаю і партрэт Быкава ў чорнай рамцы. Прыкладна праз паўгадзіны міліцыя разагнала ўдзельнікаў акцыі, а актывісты КХП-БНФ Барыс Хамайда і Ян Таўпыга былі затрыманыя і дастаўленыя ў міліцэйскі пастарунак. Іх папярэдзілі за "правядзеньне незаконнага пікетаваньня".

## Ліцэй зачынілі

На пачатку чэрвеня не дабіўшыся разуменьня ў Міністэрстве адукацыі ліцэісты, іх бацькі й выкладчыкі вырашылі выйсьці на вуліцы.

Напачатку яны накіравалі адпаведную заяву ў Менгарвыканкам, дзе прасілі дазволу на пікеты ля Міністэрства адукацыі (каля Плошчы Незалежнасьці) і ў Міхайлаўскім сквэры (недалёка ад Галоўпаштамту). Гарадзкія начальнікі адправілі заяўнікаў на плошчу Бангалёр. Аднак бацькі й дзеці ўспрынялі гэтую прапанову як цынічную і зьневажальную і вырашылі зладзіць на вуліцах Менску несанкцыянаваную акцыю "Я люблю ліцэй".

Раніцаю 19-га чэрвеня яны сабраліся ў двары ліцэя з плякатамі, дзе было напісана "Я люблю ліцэй" на 15 мовах, мапамі, падручнікамі, а таксама раздрукоўкамі публікацый у айчыннай і замежнай прэсе пра ліцэй.

Спробы выйсьці на вуліцы былі спыненыя байцамі АМАП, якія заблякавалі выхад. На праспэкт Скарыны ліцэісты, іх бацькі, выкладчыкі - усяго больш за 200 чалавек - выйшлі праз прылеглыя двары. Два кварталы да Кастрычніцкай плошчы ўдзельнікі акцыі ішлі па ходніках, не афішуючы наглядную агітацыю. І толькі на плошчы, ля Палаца Рэспублікі, яны разгарнулі плякаты й транспаранты.

Арыштаў гэтым днём не было. А вось пікет ліцэістаў, зладжаны 24-га чэрвеня на плошчы Якуба Коласа, без затрыманьняў не абышоўся. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі "для высьвятленьня асобы" выкладчыка і перакладчыка Лявона Баршчэўскага, журналіста "Нашай Нівы" Зьмітра Дзядзенку і студэнта Беларускага Калегіюму, які фатаграфаваў акцыю, Антона Ляву. Праз некаторы час затрыманых выпусьцілі, але перазапісалі дыктафонную стужку Зьмітра Дзядзенкі, дзе былі зафіксаваныя загады міліцыі на затрыманьне, і павыдалялі фотафайлы зь лічбавай камэры А. Лявы.

25-га чэрвеня урад прыняў пастанову аб ліквідацыі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя. На наступны дзень Міністэрства адукацыі выдала адпаведны загад, давяло яго да выкладчыкаў, рэкамэндаваўшы стварыць Менскі дзяржаўны ліцэй (зь беларускай мовай навучаньня), які будзе падпарадкоўвацца гарадзкому аддзелу адукацыі.

## Хадыку пасадзілі

16-га чэрвеня ў Мінску быў арыштаваны намесьнік старшыні Партыі БНФ Юры Хадыка. Гэта адбылося раніцай, калі палітык сядаў у аўтамабіль ля дому, дзе пражывае. У гэты момант да машыны падбег высокі, спартовага выгляду чалавек у цывільным. Адчыніўшы дзьверы, ён пачаў гвалтам цягнуць адтуль палітыка. Пры гэтым крычаў, што зьяўляецца супрацоўнікам міліцыі. Ю. Хадыку даставілі ў суд Савецкага раёну сталіцы.

Нагадаем, што 19-га траўня сп. Хадыку завочна засудзілі на 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у арганізацыі маршу "За лепшае жыцьцё". Першы раз яго затрымалі 24-га сакавіка, але ў судзе высьветлілася, што міліцыянты склалі пратакол з парушэньнямі. Дакумэнт адправілі на дапрацоўку, а Хадыку "ласкава прапанавалі" завітаць у суд праз нейкі час. Аднак той не зьявіўся. 19-га траўня ў адсутнасьць палітыка яго засудзілі на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Амаль месяц Юры Хадыка хаваўся ад міліцыі. Па праўдзе кажучы, нельга сказаць што гэта быў пераход на нелегальнае становішча, ён, як і раней, хадзіў на працу, займаўся грамадзкімі працамі.

Адразу пасьля арышту ў судзе Савецкага раёну завялі справу "аб непавазе да суду", аднак сп. Хадыка запатрабаваў адваката і разгляд перанесьлі на 2-га ліпеня. Абвінавачаны паскардзіўся, што падчас затрыманьня яму пашкодзілі калена. Аднак лекары ў шпіталі, куды прывезьлі яго на абсьледаваньне, прызналі стан здароўя задавальняючым і адправілі назад - разьмеркавальнік - адседжваць 15 сутак. Між тым, 23-га чэрвеня Юрыю Хадыку споўнілася 65 гадоў. Гэтую дату ён сьвяткаваў у турме.

1-га ліпеня сп. Хадыка выйшаў на волю, а ўжо на наступны дзень быў аштрафаваны на 14 тыс. рублёў (каля $7) за "непавагу да суду". Судзьдзя Аксана Рэлява гэткім чынам кваліфікавала незьяўленьне палітыка па позвах у суд.

## Арышт пасьля іспыту

А вось актывістку маладзёжнага руху "Зубр" Тацьцяну Елавую арыштавалі 18-га чэрвеня адразу пасьля апошняга іспыту ў школе (між іншым, па гісторыі Беларусі). Месяцам раней дзяўчыну таксама завочна засудзілі на 15 сутак за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі ў падтрымку англа-амэрыканскай кампаніі ў Іраку супраць Садама Хусэйна. Акцыя пад назваю "Далоў тыранаў", зладжаная 3-га красавіка, выказвала салідарнасьць зь дзеяньнямі краінаў антыіракцкай кааліцыі па вызваленьні краіны ад дыктатуры.

## Штраф у $1000

На такую суму былі аштрафаваныя два актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ Уладзімер Плешчанка і Аляксандар Салаўян. Міліцыя іх затрымалі за тое, што яны зьбіралі ў цэнтры Віцебску подпісы пад зваявамі ў суд на дзеяньні "антыбеларускага рэжыму па здачы суверэнітэту і незалежнасьці Беларусі і пляну анэксіі нашай краіны агрэсіўнай Расеяй". Сябраў партыі даставілі ў суд, дзе кожны быў аштрафаваны на 150 базавых велічыняў (2 мільёны 100 тысяч рублёў, ці 1000 даляраў ЗША).

## Назад у СССР

Менгарвыканкам прыняў унікальнае рашэньне: аб перайменаваньні станцыі мэтро "Ракаўская" ў "Спартыўную". Канфлікт разгараўся ў канцы красавіка, калі ў гасьцявой кнізе на сайце Менгарвыканкама нейкі чалавек, які падпісваецца "Михаил Моисеевич, Голландия", выказаў сваё "фэ" назве "Ракаўская". Маўляў, у яго з гэтым словам дрэнныя асацыяцыі - ракавыя пухліны, на якія так хварэе зьнявечаная Чарнобылем беларуская зямелька. Намесьнік мэра сталіцы Мікалай Ярохаў адрэагаваў імгненна, ён адказаў Міхаілу Майсеевічу, што адпаведныя захады ўжо прынятыя - "Ракаўская" будзе перайменавана ў "Спартыўную". Пасьля гэтага ў недзяржаўнай прэсе і на сайце Менгарвыканкама разгарнулася гарачая дыскусія, большасьць удзельнікаў якой жорстка крытыкавалі пазыцыю сталічнай мэрыі. Аднак на пасяджэньні гарвыканкама была пастаўленая кропка: назва "Спартыўная" прынята з ўлікам таго, што побач са станцыяй знаходзіцца будынак, які прадстаўляе вялікую гістарычную каштоўнасьць, - Лядовы хакейны палац, ну і адпаведна ў мэтах "папулярызацыі здаровага ладу жыцьця". Мэр Паўлаў паставіў канчатковую кропку, заявіўшы, што назва "Спартыўная" яму падабаецца - "сучасная".

Дадамо, што кіраўніцтва менскага мэтрапалітэну прыняло рашэньне станцыі "Плошча Незалежнасьці" надаць ранейшую назву - "Плошча Леніна". Маўляў, жыхары сталіцы блытаюцца: абвяшчаюць у цягніку "Плошча Незалежнасьці", а шыльдачкі сьведчаць, што прыехалі на станцыю "Плошча Леніна". Бедныя, ня знаюць куды ісьці. Застаецца толькі вярнуць Плошчы Незалежнасьці яе "гістарычную назву".

## Будаўнікі назаўсёды пакідаюць Курапаты?

Улады Менскай вобласьці й сталічнага раёну ліквідавалі каля Курапатаў пляцоўку фірмы "Вігэўрабуд", а будаўніцтва катэджнага пасёлку "Сонечны", які планавалі пабудаваць у непасрэднай блізкасьці ад урочышча, у ахоўнай зоне мэмарыялу забаронена. Яшчэ 28-га красавіка старшыня Менскага аблвыканкаму Мікалай Дамашкевіч загадаў Менскаму райвыканкаму скасаваць дамову на арэнду зямлі пад будаўніцтва зь фірмаю "Вігэўрабуд". Аднак толькі 20-га чэрвеня з будаўнічай пляцоўкі былі вывезеныя ўсе будаўнічыя матар'ялы, а пляцоўка засыпаная зямлёю. Прыбіраюцца таксама агароды праваслаўнага Спасава падвор'я, якія зьявіліся там незаконна. Землі вакол Курапатаў будуць закансэрваваныя да вызначэньня і зацьверджаньня ўрадам ахоўнай зоны мэмарыялу.

***Уласны карэспандэнт***

## Памятны знак у гонар Васіля Быкава

19-га чэрвеня, у дзень нараджэньня Васіля Быкава, ў Старых Дарогах быў урачыста адкрыты памятны знак у ягоны гонар.



*Старыя Дарогі. Музей выяўленчага мастацтва. Фонд Анатоля Белага. Памятны знак у гонар Васіля Быкава. Аўтар праекта А. Белы. Медал'ер Уладзімір Мелехаў.*

# СХАВАНЫЯ СЛОВЫ

Лютаўскі нумар "Беларускай Газэты" быў адным з нумароў, што 70-тысячным накладам разыходзілася па акупаванай Беларусі. Месьцілася рэдакцыя на вуліцы Рагнеды, 2, і тое памешканьне, працоўны пяцілічбавы нумар тэлефону, імя адказнага рэдактара Ўл. Казлоўскага, ведалі багата хто ў горадзе і навакольных мястэчках: газэта была папулярнаю.

Нямала хто, верагодна, пачынаў чытаць яе з апошняй бачыны, з абвестак: "Шукаю бацьку Івана Чалядзінскага, які 14 студзеня 1943 г. ехаў зь Менску на белай кабыле й не вярнуўся дахаты. Просьба паведаміць у вёску Хралоўшчына Заслаўскага раёну або ў Менск, Пляц Волі, 39, кв. 10 Н. Зайцавай" "Менская Балотная Дасьледчая Станцыя запрашае на працу садоўніка-гародніка. Аплата па згодзе. Адрыс: г. Менск, вул. М. Багдановіча (б. М. Горкага), 50а" "Тэатар. 21 лютага, нядзеля. Кармэн. Опэра ў 4-х дзеях. Муз. Бізэ. Пачатак а 13 гадзіне. Увечары - прэм'ера. Ф. Аляхновіч. На Антокалі. Камэдыя ў 3-х дзеях. Пачатак а 18 гадзіне" "Дзеці Віця 6 год і Сяржа 5 год, якія на пачатку вайны засталіся ад бацькоў з 1941 г. знаходзяцца ў гр. Шарэнды Ігната ў в. Сяледчыкі Дзекшнянскай вол., Радашкоўскага павету" "Шукаю жонку Веру Міхайлаўну Сакалову-Далбінаву, сына Юрку, сястру Марыю, якія жылі да пачатку вайны ў г. Варонежы, і маці Пелагею Ягораўну Енічаву, якая пражывала ў вёсцы Цярпеўка Варонежскай вобласьці. Просьба паведаміць на адрыс: Менск, Грушаўскі пасёлак, Пагранічная вуліца 5, кв. 2, Сокалаву М. Г."

Хтосьці, абмінаючы перадавіцы, што звычайна дасылаліся ў рэдакцыю гатовымі, шукаў на балонках газэты новыя фельетоны Лявона Крывічаніна або вершы Натальлі Арсеньневай, а нехта - артыкулы пра сваё нядаўняе падсавецкае жыцьцё. Без такіх рэдка абыходзіўся які газэтны нумар быў падобны і ў лютаўскім - "Савецкі суд і судзьдзя" Я. Здалевіча:

"Я бачу дзікі збор законаў
І душы подлыя судзьдзёў,
Я чую стогны міліёнаў
І плач пакрыўджаных людзеў.

Так ахарактарызаваў савецкі суд і савецкага судзьдзю адзін малады паэта. Усемагутнае НКВД знайшло аўтара гэтай эпіграмы й засудзіла яго на дзесяць гадоў канцэнтрацыйных лягераў. Ён прасядзеў два гады ў Запаляр'і, у яго распухлі ад раматузу ногі, ад цынгі ў яго павывальваліся зубы, ён зрабіўся поўным інвалідам, і ўсё-ж такі на кантынэнт яго не пусьцілі, бо ў ягонай справе была адзнака - асабліва небясьпечны", - пісаў аўтар артыкулу.

Тэма паэта й паэзіі знайшлі нечаканы працяг у іншым матар'яле таго-ж нумару - у імпрэсіі Д. Забранскага (Ант. Адамовіча) "Чорная Бель". Нечаканасьць была ў ягонай паэтычнасьці, іншасказальнасьці, неадназначнасьці. Агульнафілязафічны падтэкст - для шырокага чытача. І амаль аўтабіяграфічны - для тых, хто ведаў. Зрэшты, вось яно, тое схаванае слова.

*Андрэй ЛЮБІЧ*



***На здымках: зьверху: Антон Адамовіч зь невядомаю; зьнізу зьлева направа: Валеры Маракоў у сталоўцы Саюзу Пісьменьнікаў, Міхась Багун; Алесь Дудар - "Тавізавец".***

# ЧОРНАЯ БЕЛЬ

*Ти чого так нервово трепещеш?*
*Ждеш від мене призная того?*
*Я страждаю, та ба! Не признаюсь.*
*Ти- чужа, не з народу мого!*

***А.Кримський.***

*Беларус павінен вышэй трымаць галаву і, калі выбірае сабе таварышку жыцьця, дык такой можа быць толькі свая нацыянальная сяброўка, аднае думкі, аднае ідэі, аднае крыві.*

***З перадавіцаў Ул. Казлоўскага***

Чорныя па белым рояцца думкі, шукаюць, як чорнае зь белым зьліць, выліцца ў словы, радкамі - чорным на белым - застыгнуць.

Белыя на чорным кладуцца стыглінкі - белы цярусіцца сьнег на чорныя грудзі маці-зямлі.

Першы сьнег.

Першы верш.

Белая пуховая шапачка - як сам першы сьнег. Белая, чыстая - так? - уся сама, і - сьцюдзёная можа ў белі сваёй - як сам першы сьнег.

А ў самога - чорна так на душы - учарнела даўно, закурэла.

- Ці праўда, што ў Вас усе пішуць вершы?

І дробна, як нейкі верш, выбівае на белым сьлядок чорны маленькі абцас. За ім - большы сьлед - ня ў рыфму.. І ня ў рыфму - хрусь - тонкі нейкі лядок.

- Беларусы ўсе пішуць вершы. Хоць раз у жыцьці.

- А каб ня пісалі?

- Можа й лепш-бы. Ды пэўна - горш. Хто ведае. Як каму.

- Перавярнулі-б сьвет?

- Можа й добра кажаце самі.

Сьнег - хутчэй, і хутчэй, - як шкода! - хада.

- А Ваш "раз" - быў? "Хоць раз у жыцьці"?

- Ня было йшчэ - жыцьця.. Так усё - нейкі сьнег, і ўсё - нейкі першы.. Хоць, кажуць, жыцьцё - яшчэ горш: адвечны, усё леташні сьнег..

- Дык што гэта - зрада народу? Бязь вершаў - і бяз жыцьця?

Строга навет, і ўрачыста:

- Чорныя думкі аб здрадзе, белая ўся наша Беларусь -?

Белая ўся, так - як Вы..

А ў самога - чорна так на душы: гэта - ня здрада? І ўжо ў яе пад абцасам таксама хрусьціць лядок.

- Я - не. Не така-ая! А цікава было-б зірнуць..

- Як пішуцца вершы?

- На Беларусь. І - як пішуць, таксама.

- Адно - лёгка паказаць.

- А другое? І каторае?

- Хіба што - верш.

Сьнег - і калі? - перасьціх. А сьлядоў на ім ужо - і калі? - як багата! Ці ня ўплёўшыся ў іх - прыцялася й хада.

- Вось мой дом. І трэба дадому.

Так, ён - і ён між белага чорны. Чорнымі вокнамі - мёртвы, сьляпы. А сьляды - чые - і так багата?

- Ведаю, ваш. Ведаю, трэба. Не пяршыня.

- А можа - часінку?

- Сёньня - не. Дык - да заўтра?

- Можа..

- Ня можа - напэўна! "Не пяршыня"!

Паўадваротам:

- І каб быў верш!

А маленькім чорным абцасам - нецярпліва й наравіста - загад? - два разы: празь белае - дзьве чорныя ранкі зямлі.

- Да заўтра!

Весьнічкі - раз, і адмахам - два. Дзьве чорныя ранкі. Па дошках па ганку - дробненькі тупат абцасаў.

Так і бяруць "пад абцас"?

Бразгат завалы. І закладаюць ізноў.

Думай цяпер. Зрада. Што зрада? Гэтак хадзіць? Верш напісаць? Не пісаць? Не хадзіць?

Белае - так: Беларусь. Наша. Наша - і "ваша" ў яе..

Чорнае: зрада. І зрада - верш.

Дык верш?

Першы верш.

Першы сьнег.

Можа калісьці ў сьне
Гэтак было, як цяпер:
Першы бялюткі сьнег,
Я кахаю цябе.
Ты кахаеш мяне
(Гэта - толькі ў сьне)
Ў гэткай прыгожай мане
Першы бялюткі сьнег..
Дружна ўдваіх ідом,
І рука ў руцэ,
Вось ужо хутка і дом,
Вораг маіх уцех.
Вось ужо хутка і дом -
Колькі навокал сьлядоў!
- Вось ужо хутка ідом! -
Жаліцца нават лядок.
Сьцішма крыху хаду:
Ростань пасьпее прыйсьці..
Заўтра прыйду - ня прыйду -
Іншы мо будзе прыцін..
Іншы мо будзе ход дум,
Сьцішма крыху хаду..
Заўтра прыйду - ня прыйду.
Заўжды з табою мой дух!
Ведаю, будзе так
І на яву, ня ў сьне:
Сыйдзе уся слата
Некалі па вясьне.
Сыйдзе апошні сьнег
Некалі па вясьне..
Бразнуць завалы сяней
На яву, ня ў сьне.
Вось калі конча прыйду,
Бо не змагу не прыйсьці,
Вось калі знойдзе ход дум
Свой нямінучы прыцін.
Вось калі нашых сьлядоў
Не дакранецца слата,
Вось калі струшчым лядок,
Што паміж намі паўстаў.

Гэта лёгка зусім - верш.

І таму стопудова наваліцца, цісьне пасьля.

Ужо - той абцас? Маленькі такі-ж - хіба мог прыгнеціць гэтак?

А ён-ткі, ён. Маленькі - дарма, а - проста на сэрца, у сэрца. Маленькае й сэрца - пружкі й трапяткі камячок..

- і баліць таму, дык і "рвецца, рвецца на кавалкі за цябе, сябе й за другую"..

За другую, што - хай і нязнанкай яшчэ - адтуль, з-за тысячаў даляў, зь немым дакорам глядзіць: якім правам?

Якім правам - пад абцас, пад той усё пад чужацкі бот - самахоць?

Чакай, не сьпяшай, строгая ты: прававаца - будзем!

Так, ішлі самахоць. І завабленыя - ішлі. Славу несьлі, палеглі ў вякох - усё ім, і ўсё для іх - для чужых і варожых.

Дык і даруецца так? Словамі толькі адплата сплыве?

Не - адрабіць! І цяпер якраз - адрабіць! Перавабіць, перавабіць сабе на свой бок - іх лепшых, найлепшых - сарваць!

За нашых за тых, што забралі сабе, што ад нас - адарвалі.

І зь яе, з гэтай белай зусім - беларуску зрабіць! Цяжка? - Нашай будзе і ёй, як параніць прадоньнем блакіту вачэй і тугі - Беларусь!

Будзе!

Зьнікла зь немым з дакорам - зусім, а чаму-ж так шчыміць, і шчыміць, і шчыміць?

*Заканчэньне на бач. 5*










# Весткі й Паведамленьні

ньbig ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org

№7 (450)


## Чэрвеньскі сход аддзелу БАЗА

На пачатку чарговага сходу аддзелу БАЗА, што адбыўся, як заўсёды ў другую суботу месяца, 14-га чэрвеня, старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі, што адбыліся ў Беларусі за апошні месяц. Сярод іх ён ўзгадаў адмову Нацбанку Беларусі на карысьць Расеі ад самастойнай валютнай палітыкі, на прыпыненьне ўладамі выхаду "Белорусской Деловой Газеты" і перасьлед газэтаў "Салідарнасьць" і "Предпринимательская газета", што друкавалі матар'ялы "БДГ", а таксама канфлікт вакол Гуманітарнага Ліцэю, гандаль жанчынамі зь Беларусі, падпісаньне канкардату паміж урадам Рэспублікі Беларусь і прадстаўніцтвам Расейскай Праваслаўнай Царквы ў Беларусі ды іншае.

Затым выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк, які нагадаў гісторыю стварэньня т. зв. "саюзнай дзяржавы" Беларусі й Расеі, спыніўся на зьмесьце "канстытуцыйнага акту", падрыхтаванага для псэўда-юрыдычнага падмацаваньня ліквідацыі суверэнітэту Беларусі. Усё гэта - дзейнасьць ворагаў Беларусі, скіраваная на ўсыпленьне грамадзкай думкі й падрыхтоўку паглынаньня бяз слова "анэксія". Прамоўца закрануў таксама ўказ Лукашэнкі аб прыватызацыі, дзе акцыянуемыя прадпрыемствы мяркуецца рэалізаваць толькі за наяўныя грошы, праз што права на долю ўласнасьці пазбаўляюцца працаўнікі прадпрыемстваў, грамадзяне Беларусі, а продаж адбывецца ў рукі замежнага, расейскага капіталу. Ліквідацыя нацыянальнай валюты, "рэжымная" прыватызацыя і рыхтуемы закон аб зямлі, што таксама пазбавіць грамадзянаў Беларусі вырашальнага слова ў справе земляўласьніцтва - гэта трох-ходовая камбінацыя, што падрыхтаваная для разбурэньня эканамічных падвалінаў беларускай незалежнасьці. Перасьлед масавых сродкаў і недзяржаўных арганізацыяў будзе дапоўнены ліквідацыяй партыяў - праз павышэньне ўмоваў па колькасьці сяброў, выкарыстаньне прэтэксту парушэньняў падчас масавых акцыяў і г. д. Адказам беларускіх незалежніцкіх сілаў на гэта ёсьць адмысловая праграма супрацьву, што прадугледжвае змаганьне, у тым ліку праз суд, супраць антыканстытуцыйнай дзейнасьці па ліквідацыі суверэнітэту Беларусі, інтэрпрэтацыю гэтага як канкрэтных парушэньняў правоў чалавека, у дадатак да іншых мэтадаў. Таксама вялікае значэньне мае асьветніцкая дзейнасьць, тлумачэньне таго, чым можа абярнуцца дамоўленасьць аб "саюзнай дзяржаве" для простых грамадзянаў Беларусі (страта маёмасьці, служба сыноў у "гарачых кропках" і г. д.). Зьнікненьне суверэнітэту Беларусі закранае не абстрактныя пытаньні палітыкі, а лёсы ўсіх беларускіх людзей, іхных дзяцей і ўнукаў. Гэта трэба памятаць, гэта трэба давадзіць да грамадзкай сьведамасьці й да кожнай асобы.

Затым спн. Валянціна Якімовіч заклікала прысутных узяць удзел у сьвяткаваньні Купальля 28-га чэрвеня. Прысутныя пазнаёміліся з гасьцямі аддзелу і пры каве і пачастунках калегаваліся зь сябрамі й знаёмымі.

**Віталь ЗАЙКА**

## ЧОРНАЯ БЕЛЬ

*Заканчэньне з бачыны 4*

І адкуль гэта - гукі? Жалейка? Іскрыпка? А як працінае-шчымліць!..
З цэлага хору - адна.
Зраньня сьнег.
Сьнег - цэлы дзень.
І пад вечар - мяцеліца - сьнег.
Дык - сьпяшайся хутчэй: гэта-ж сяньня - учарайшае заўтра, і сяньня - учарайшы верш - аддаць..
Белае з чорным ізноў. Чорны прастор. І белы вар'юецца, скача ў ім - сьнегавей. Мяцеліца.
Стой - ці ня гэтак было?

Па сьняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы.
А пад буркаю нешта хавае..

Леташні, пазалеташні - ой, як даўны сьнег! Іх, трох Будрысаў - ці ня тыя-ж сьняжыстыя сьцежкі насілі? І чацьвёртым між імі, а першым над імі - сам ён, забраны Адам. Колькі сьцежак - а ўсё ў вадну. У вадну - у гэту.
Адвечным тропам.
Пад абцас.
Забыўся? "Адрабіць"! "Адрабіць" - толькі рэзкі мяцелічын рогат.
Не - назад! Як крутчэй! Як хутчэй!
Назад і - назаўсёды.
.. І ўрачыста, скрозь рогат завеі - іскрыпка грыміць.
Чуеш, з цэлага хору - адна.
Назад! Назад!
Ціха. Цёпла. Сьветла. - Дома.
Па ўцёках - ах, як ціха! Хай-жа: гукі сусьвету рынуць мацней - разьбіць цішыню. І чорная розьверць - рупар - белай мяцеліцай гукаў - сыпле ад сьценкі - проста з двара?
.. Як па вуліцы мяцеліца мяце..
Мяце - не мяце? Зрада - ня зрада? Ці аднэй, ці другой - а чорная. А яны-ж - ці адна, ці другая - а белая.
Чорная бель.
І назад - ужо было, і ня можна ізноў ад яго - назад!
Не, не, не!

.. Як па вуліцы мяцеліца мяце..
Толькі адно - верш:

Запяваюць ізноў галасы:
"Як па вуліцы мяцеліца мяце".
Запылелі палёў абрусы,
Засьняжыла часьцей і часьцей.
Мітусеньнямі такой часьціні,
Пераплётамі завейных галасоў
Завіруюць і ночы, і дні,
Не пазнаеш, дзе ява, дзе сон.
За мяцеліцай хістаюся - іду,
Не п'яны, а цьвярдосьці не стае.
Як дарожку да мілае знайду,
Як патраплю на заклік яе?
Рэжа вочы мне мяцелічын дым,
Напушчаюцца віхры чарадой,
Замятае адзадзя сьляды,
І наперадзе - жадных сьлядоў.
Хоць вазьмі - на ўзьвей вецер гукай:
"Пачакай-пастой, дзяўчыненька мая"!
Ды ня дасца й сьлядка адшукаць,
Ды ня выблісьне з цемры маяк.
Хоць вазьмі - сярод поля стань:
"Загубіла ты малойчыка мяне"
Ды усходзіцца болей хвастаць.
Ды ўзьюшыцца, злая, мацней.
Ды зьмяёй-папаўзухай каля ног
Засіпіць, каб як джалам працяць.
Абвіла-б, задушыла-б даўно,
Каб спыніўся на момент хаця.
Добра, нехта напявае: "Не зважай,
Не зважай на перагасы ўсе:
Гэта толькі імжа, гэта толькі імжа,
Ёю вецер, як хоча, трасе.
За імжою - нічога, ані:
Нават небу няма дзе сінець,
Ты і мілую таксама прысьніў,
І мяцеліцай трызьніш у сьне.
А захочаш прачнуцца - разамжы
Свае вейкі і спробуй здышаць:
Як даўно на апошняй мяжы,
На крыжы балянсуе душа..
І ці дзіва, што гэта ў ёй
І мяцеліцы зьвілі гняздо,
І сумётаў, і гурбаў - а-ёй!
І наперадзе - жадных сьлядоў!..".

Апошні верш.
Назаўтра была адлега.

## Купальле ў Нью Ёрку



Да прыезду ў ЗША я думала, што, сустрэўшы трох беларусаў, і ў пустыні здолею ўтварыць Купальле. Першая мая спроба наладзіць Купальле ў ЗША была ў 2000-м годзе ў Белэр-Менску. Другая сёлета ў рэзэрвацыі Ўард Понд Рыдж у акрузе Вэстчэстэр. Мясьціна там прыгожая, блізкая сваёю чысьцінёй і веліччу да беларускіх краявідаў. Абапал палянаў з травою па пояс купкамі стаяць вялізарныя развалістыя дрэвы. Цішыня, якую парушае толькі сьпеў птушак. Але вось кветак там зусім няма і, ведаючы гэта, давялося задаволіцца штучнымі й сьплятаць вянкі зь іх, што надало сьвяткаваньню ад самага пачатку нейкую ненатуральнасьць.

Людзі зьехаліся з розных мясьцінаў, два хлапцы з Філядэльфіі, нехта з штатаў Масачусетс, Нью Джэрзі, сябры аддзелу БАЗА у Нью Ёрку.

Як сьцямнела, расклалі вогнішча на пагорку ля старога драўлянага зрубу, у цэнтры якога, замацавалі на слупе кола, зробленае з галінак, з крыжом упрыгожанае бел-чырвонымі стужкамі. Вакол вогнішча сабраліся гульцы, абралі Купаліша і Купалку. Зрабіўшы тры абыходы зь песьнямі вакол агню, дзяўчаты падвялі Купалку да Князя, той павіншаваў усіх са сьвятам. Пачалі сьпяваць і вадзіць карагоды. Мне давялося запяваць, каб астатнія, прыслухоўваючыся, падхоплівалі радок сьпеваў паўторам. Удзел бралі ўсе, вельмі craраліся. Потым карагоды зьмяніліся гульнямі.

Апоўначы, калі прыпыніліся гульні й трэба было ісьці шукаць папараць-кветку, усе раптам кінуліся па свае харчы. Відаць, прагаладаліся. Зважаючы на гэта, вырашылі зрабіць агульнае застольле. Тым часам закіпеў духмяны крупнік, якім ўсе пачаставаліся. А пасьля нехта пайшоў уладкоўваца спаць, а сёй-той, як умеў, падцягваў сьпевам ля вагню.

Паціху пачало сьвітаць. Сьветлячкі нібы растварыліся ў паветры. Ніхто так ні разу і ня скокнуў праз вогнішча, ніхто не пайшоў да рэчкі, што ціха цякла непадалёку. Па-шчырасьці, у нас атрымалася сяброўская пасядзелка на прыродзе, як бы рэпэтыцыя Купальля, якую нават не давялі да завяршэньня.

*Заканчэньне на бач. 8*

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на*
*Belarusan American Association.*
**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэк выпісвайце на імя*
*A. Mickievic*

**Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:**

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Агароднік | 30 | Л. Рыжы | 30 |
| І. Букач | 30 | П. Рыжы | 30 |
| Бяляева | 30 | А. Сапун | 30 |
| М. Вашкевіч | 30 | А. Сапун | 30 |
| Т. Кліменка | 30 | А. Шчэрбацэвіч | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Наступны сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 12-га ліпеня а 7-й гадзіне вечара ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага па адрасу:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягнікам падземкі F да 169th Street.***

# "Усе мы страчаныя, нібы ў траве сьляды.."

Гэты Жылкавы радок наўпрост мае дачыненьне да героя майго невялічкага артыкулу, ягонага жыцьця да сваё сьмерці й пасьля яе, бо сьмерці для сапраўднага мастака не існуе. А вось забыцьцё - ёсьць. І страта - таксама ёсьць.

Аляксандар Ісачоў нарадзіўся 11-га студзеня 1955-га году ў вёсцы Азарычы Калінкавіцкага раёну Гомельскай вобласьці. Яму не было і трох гадоў, калі ён, страціўшы бацьку, разам з маці пераехаў у Рэчыцу. З гэтага часу ўсё далейшае жыцьцё Аляксандра пазначана ценем непрытульнасьці: навучаньне ў школе-інтэрнаце ў Мазыры, у Менскай рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы й выяўленчаму мастацтву, адкуль пасьля чатырох гадоў ён быў выключаны. Праз гэта сярэднюю адукацыю здабывае у рэчыцкай сярэдняй школе для працоўнай моладзі, адначасна працуючы ў рамонтна-будаўнічым упраўленьні. Але з 1973-га году ягонае жыцьцё мяняецца: ён едзе ў расейскі Ленінград, дзе трапляе ў асяродзьдзе мастакоў-нефармалаў. Там Аляксандар нарадзіўся другі раз - як творца.

Але абстракцыянісцкія пошукі былі для Ісачова кароткім перыядам. Узяўшы хрост у 19 гадоў, ён павяртаецца тварам да Бібліі, скуль прыходзяць ў ягоныя карціны тэмы Ісуса, Майсея, апосталаў. Адначасна А. Ісачоў займаецца росьпісам цэркваў, у прыватнасьці, Сьвята-Усьпенскай царквы ў Мазыры. Тады-ж і знаходзіць мастак свой унікальны стыль, які зробіць яго знакамітым.

500 карцінаў толькі алеем! Шалёны тэмп працы. Як адказ на прысуд, што прагучаў ад чынавенства Саюзу мастакоў Беларусі: "Працы выстаўляць нельга - неадпаведныя тэмы". Казалі й пра дылетантызм, пра адсутнасьць густу, але ціхенька, шэптам, бо свайго, уласнага супрацьстаяць былі ня ў стане - гэтыя нішчымныя афарміцелі ад мастацтва. Ім толькі паштоўкі размаўлёўваць ды рэкляму прадукаваць!

Выставы Ісачова, аднак, былі толькі не афіцыйныя, падпольныя карціны за мізэр прадаваліся, а часьцей дарыліся ў калекцыі Галяндыі, ЗША, Францыі, Швэцыі..



Аляксандар Ісачоў памёр ва ўзросьце 32 гадоў, у 1987-м годзе праз два дні пасьля закрыцьця першай афіцыйнай выставы ў Рэчыцы. Пасьля была ашаламляльная выстава ў Менску, дакумэнтальны фільм "Ня плачце па мне", выставы ў Маскве. Ведамасьць. Слава. Мода.

І тут пачынаецца другая гісторыя мастака Ісачова, мо' нават больш трагічная як прыжыцьцёвая, нягледзячы на ярлык "антысаветчыка" і "багамаза", на ігнараваньне калегамі й дзяржаваю, на прымусовае ўтрыманьне ў псыхічным шпіталі. За карцінамі Ісачова распачалося паляваньне. Спачатку была абрабаваная матчына хата ў Рэчыцы - на Радаўніцу, потым гвалтам улезьлі ў кватэру ўдавы. Скралі ня толькі арыгіналы, але і слайды, фатаздымкі, каталёгі. Пазьней абрабавалі прыватную калекцыю ў Ленінградзе, скралі пяць карцінаў з Рэчыцкага краязнаўчага музэю.

Сёньня мінаку няма куды пайсьці, каб самому пабачыць карціны геніяльнага мастака з Рэчыцы, няма як паказаць іх госьцю.

Я далёкая ад думкі параўноўваць Аляксандра Ісачова з Малевічам, Шагалам, Суціным, Цадкіным. Занадта розныя мастакі, розныя таленты. Але нешта аб'ядноўвае іх. На наш сорам і тое, што яны незапатрабаваныя ў роднай Беларусі.

*Аліна СТРЫГА*

*На здымку: карціна А. Ісачова з прыватнай беларускай калекцыі (ЗША).*

# "САКАВІК" - новая беларуская радыё-праграма ў Ангельшчыне

Мы назвалі нашую радыёпраграму "Сакавік", таму што гэтае слова ня новае для тых, хто жыве ў Брадфардзе. Доўгі час у клюбе з такою назваю зьбіраліся беларусы, каб за кубкам кавы ці добрага піва паразмаўляць, пасьпяваць ці абмеркаваць нешта важнае ці ня надта. Зараз клюб ня дзейнічае, няма на гэтым сьвеце шмат каго з тых, хто закладаў пачаткі беларускіх традыцыяў у Брадфардзе. Амаль немагчыма пачуць беларускую гаворку на вуліцах гораду. Але зьявілася надзея, што беларускую мову зараз можна будзе чуць на хвалях мясцовага радыё BCB (Bradford Community Broadcasting). Гэта мясцовая радыёстанцыя, якая працуе на 96.7 FM.

Брадфард сёньня - шматкультурны горад, таму мінулым летам у кіраўніцтва BCB зьявілася думка даць магчымасьць жыхарам гораду паслухаць розныя галасы на розных мовах. Ідэю ўпершыню ажыцьцявілі ў жывым эфіры цягам Тыдню Ўцекача ў сярэдзіне чэрвеня. У мінулым чэрвені ўпершыню прагучала і перадача на беларускай мове.

Затым цягнуліся доўгія перамовы, якім чынам нам працаваць далей. Нашая другая і трэцяя праграма прагучалі ў чэрвені сёлета, таксама цягам Тыдню Ўцекача. Але зараз мы маем магчымасьць рэпрэзэнтаваць нашыя перадачы раз на тыдзень працягласьцю на паўгадзіны. Мы - гэта Лілія й Зьміцер Сазанавец. Мы ня мелі вялікіх праблемаў з пошукам станцыі, таму што нашыя перадачы - гэта частка ўжо ўсталяванага радыё. Нашая праблема была ў іншым. Мы павінныя былі даказаць, што мы - не расейцы, мы - прадстаўнікі асобнага народу, які мае сваю адмысловую культуру, якая далёкая ад культуры расейскай. Паколькі няшмат хто разумее нашую мову, мы асаблівую ўвагу надзяляем выбару музыкі. Музыка, якую мы перадаем на радыё, вельмі беларуская, і мы спадзяемся, надзвычай выкшталцоная.

Пакуль што мы перадавалі навіны зь Беларусі ды ўвогуле інфармацыю, зьвязаную зь Беларусьсю. Мы зьбіраемся працягваць так і наладзей. Але ў нашых плянах ёсьць стварэньне цыклю перадачаў пра беларусаў, хто жыве ці жыў за мяжою, найперш у Брытаніі, а таксама пра тых, хто меў нейкае дачыненьне да Брадфарду. Таму мы просім усіх, хто мае нейкую інфармацыю, пісаць нам на адрас:

*Mrs. Liliya Sazanavets*
*136 Park Lane*
*Bradford*
*West Yorkshire*
*BD5 0LN*
*UK*

Альбо дасылаць на наш e-mail: lsazanavets@yahoo.com

Іншы цыкль перадачаў, які мы плянуем стварыць, - гэта перадачы пра беларускіх пісьменьнікаў, якіх лёс закінуў далёка ад Беларусі. У гэтым выпадку ня мае значэньня, у якой краіне апынуўся пісьменьнік. Мы просім дасылаць нам інфармацыю, а таксама творы.

Будзем спадзявацца, што нашыя беларускія перадачы будуць мець доўгае жыцьцё. Пазьней мы паведамім, дзе і калі нашыя перадачы можна слухаць праз інтэрнэт.

*Лілія й Зьміцер САЗАНАВЕЦ*





*На здымках: Л. і З. Сазанавец у студыі.*

# Выстава ў Нью Ёркаўскай Публічнай бібліятэцы

Не аднойчы ўтульная заля Славянскага й Балтыйскага Аддзелу ўпрыгожвалася выставамі, ладжанымі Зораю Кіпель, што распавядалі бібліятэчным наведвальнікам пра гісторыю беларускае кнігі, пра Францыска Скарыну, Янку Купалу, Якуба Коласа. Сёньня там дзейнічае выстава, прысьвечаная яе памяці.

Выстава, зробленая намаганьнямі супрацоўнікаў Аддзелу, дэманструе кнігі, напісаныя, перакладзеныя, рэдагаваныя ёю самою або ў сааўтарстве з мужам, др. Вітаўтам Кіпелем.

# Фонд Беларускай Кнігі ў Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы

У папярэднім нумары "Беларуса" ў артыкуле, прысьвечаным сьв. пам. Зоры Кіпель, загадчык Славянска-Балтыйскага Аддзелу Бібліятэкі сп. Касінец паведамляе, што Зора Кіпель у паразуменьні зь сям'ёй ахвяравала Бібліятэцы 25 000 даляраў, залажыўшы тым самым Фонд Беларускае Кнігі. Як доўгагадовы супрацоўнік бібліятэкі ўважаю, што беларускаму грамадзтву трэба даць больш інфармацыі аб тым Фондзе.

Нью Ёркаўская Публічная Бібліятэка, закладзеная ў XIX-м стагодзьдзі, а адчыненая для наведвальнікаў на скрыжаваньні 42-й вуліцы й 5-й Авэню ў 1911-м годзе, складаецца як бы з 2-х аддзелаў: дасьледчага і абанэмэнтнага. Аддзел дасьледчы, у аснове якога ляжыць капітал заснавальнікаў, магнатаў-індустрыялістаў, філантропаў Астора, Тыльдэна й Ленакса, налічвае каля 30 мільёнаў каталёжных адзінак, а аддзел абанэмэнтны складаецца з 80 адгалінаваньняў з прыблізна 10 мільёнамі кніжак.

У аддзеле дасьледчым ёсьць каля 30 аддзелаў, сярод якіх і Славянска-Балтыйскі. У некаторых з тых аддзелаў ёсьць спэцыяльныя фонды, якія, як у выпадку з фондам амэрыканскае літаратуры, налічваюць мільёны даляраў. Прызначэньне гэтых фондаў мае канкрэтныя мэты: набыцьцё толькі некаторых кнігаў, абумоўленых пры заснаваньні фонду. Вось жа Фонд Беларускае Кнігі быў створаны сям'ёй Зоры й Вітаўта Кіпеляў для набыцьця толькі рэдкіх кнігаў, прыкладам, скарынінскіх кнігаў альбо для захаваньня рэдкіх беларускіх друкаў, якія патрабуюць спэцыяльных умоваў захаваньня і рэстаўрацыі.

Фонд Беларускае Кнігі - фонд адчынены, да яго можна дадаваць сумы, але назначэньне застаецца бязьменнае - выключна для рэдкае беларускае кнігі.

Для разьвіцьця й падтрымкі беларускае культуры ў ЗША фонд мае вялікае значэньне, бо гэта ці ня першы фонд, створаны для бібліятэчнае-кнігаведнае справы.

*Лявон ЮРЭВІЧ,*

*Загадчык Адзьдзелу Кнігаабмену Нью Ёркаўскае Публічнае Бібліятэкі*

# Угодкі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу

У суботу 28-га чэрвеня 2003-га году Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі ў Аўстраліі адзначыў 59-я ўгодкі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу. Старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі сп. Аўген Груша прывітаў усіх прысутных і запрапанаваў хвілінаю цішыні ўшанаваць памяць тых, хто аддалі свае жыцьці, каб жыла Беларусь. Асаблівую ўвагу сп. Груша зьвярнуў на надыйшоўшую сумную вестку аб сьмерці яшчэ аднаго адданага сына нашай Бацькаўшчыны, выдатнага дзеяча беларускай культуры, шанаванага ўсімі беларусамі сьвету сьв. памяці Васіля Быкава. Гэта яшчэ адная вялікая страта беларускага народу ў змаганьні за волю і незалежнасьць.

Наступна сп. Алег Шнэк прачытаў рэфэрат на тэму дня. Затым Вера Шайпак прачытала верш Алеся Салаў'я "Радаславу Астроўскаму". Рыгор Шайпак прадэклямаваў свой уласны верш вельмі адпаведны сёньняшняй сытуацыі ў Беларусі. Аўген Груша прадэклямаваў, з уласьцівай яму аднаму выразнасьцю, верш "Ліст зь Сібіры", нажаль, няведамага нам паэта. Наступна Ніна Флейшэр прасьпявала ўсім нам ведамую і любімую песьню "Беларусь мая".



*На здымку: удзельнікі сьвяткаваньня стаяць зьлева направа Я. Барысевіч, А. Грыцук, Я. Яшчанка, Р. Шайпак, М. Сасноўскі, сядзяць А. Груша, А. Шнэк.*

Перад заканчэньнем урачыстай часткі афіцыйнага сьвяткаваньня і адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ўсе прысутныя з увагаю праслухалі касэту з прамоваю Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады праф. Радаслава Астроўскага на 2-м Усебеларускім Кангрэсе, якую прынёс а. Аляксандар Грыцук.

Сяброўская бяседа працягвалася супольным пачастункам, сьпевамі, жартамі й успамінамі мінулых дзён. Таксама ўспамінамі з падарожжаў па іншых краінах і асабліва тымі, калі наведвалі Беларусь і свае родныя мясьціны.

На заканчэньне пажадалі адзін другому добрага здароў'я і да хуткай сустрэчы.

Жыве Беларусь!

*Алег ШНЭК*

# Слова чытача

На бачынах нашай газэты "Беларус" падымаліся й падымаюцца цікавыя тэмы, якія не пакідаюць нас, беларусаў-эмігрантаў, абыякавымі. Але неяк да гэтага часу не вялася гутарка пра стан нашае сучаснае беларускае літаратуры. Магчыма, гэтая тэма, праблемы сучаснай беларускай літаратуры, не абыходзіць чытачоў "Беларуса". Але мне здаецца, што я памыляюся, бо ня можа стан беларускай літаратуры не хваляваць беларуса. Няхай сабе і не такога заядлага чытача і аматара кнігі як аўтар гэтых радкоў.

Тыя з чытачоў, якія маюць доступ да Інтэрнэту і больш-менш стала наведваюць www.litara.net, бачыну, прысьвечаную праблемам беларускай літаратуры, мабыць зьвярнулі увагу на тое, якія часамі там ідуць дыскусіі, асабліва, калі гаворка заходзіць пра масавую літаратуру, якую яшчэ завуць "поп-літаратураю". Хоць сярэдні беларускі чытач толькі пацісьне плячыма і зьдзівіцца таму, як можна спрачацца наконт таго, чаго няма. Ну няма ў нас сучаснай беларускай масавай літаратуры. Пад "сучаснай" маецца на ўвазе тая літаратура, якая створаная за апошнія дзесяць гадоў ці пасьля здабыцьця Беларусьсю незалежнасьці.

Размаўляючы са сваімі сябрамі, прыпамінаецца нават дыскусія з доктарам Алаю Орса-Романо. Мне ўвесь час тыкаюць у нос тым фактам, што, маўляў, у Беларусі прыціскаецца беларускае кнігавыдавецтва. Здаецца, ну пра што спрачацца? Мы ўсе ведаем, што рэжым Лукашэнкі не спрыяе беларускай мове, беларускай культуры. Але так адразу казаць пра прыціск... Каб крыху высьвятліць гэтую сытуацыю зьвярнуўся я да асобных сваіх сяброў у Менску, Горадні, нават Гомелі, зьвярнуўся да асобных беларускіх пісьменьнікаў, крытыкаў, зь якімі стала лістуюся. Атрыманая інфармацыя пераканаўча сьведчыць, што на гэты момант з боку дзяржаўных структураў Беларусі няма такога асаблівага прыціску на беларускія кнігавыдавецтвы. Ціснуць іх, як і ўсе бізнэсы: падаткамі, рознымі паборамі. Але асобныя зь іх, выдавецтва Адама Глёбуса, напрыклад, жывуць і нават квітнеюць, кнігі рэгулярна друкуюцца.

Вядома, мне могуць запярэчыць, што справа не такая ўжо бясхмарная, што ёсьць факты. Вось пра гэтыя факты, бязумоўна, было-б цікава пачуць і мне, бо я ні ў якім разе ня зьбіраюся выступаць у ролі адваката дыктатуры Лукашэнкі.

Культура любой нацыі мае пад сабою трывалы падмурак, адным з асноўных складнікаў якога зьяўляецца мова. Прынамсі, мова - гэта тое, што аб'ядноўвае асобных людзей у нацыю. Дзяржаўныя межы, прынамсі ў Эўропе, далёка не заўсёды справядліва, адлюстроўваюць арэал той ці іншай мовы. І калі беларуская мастацтва і музыка толькі апасярodнена грунтуюцца на беларускай мове, то беларуская літаратура - гэта дрэва, якое ўсімі сваімі каранямі ў беларускай мове.

Вось давайце і пагаворым пра "плады з гэтага дрэва". Я адразу хачу папярэдзіць чытачоў газэты, што мае нататкі вельмі суб'ектыўныя. Я з задавальненьнем выслухаю меркаваньні іншых беларусаў, якія цікавяцца літаратураю таксама як і я, для якіх чытаньне кнігаў зьяўляецца адным зь любімых відаў бавленьня часу. Перакананы, што рэдакцыя газэты з задавальненьнем дасьць магчымасьць выказацца маім апанэнтам, як з дыяспары, гэтак і зь Беларусі. Спадзяюся, што такія знойдуцца.

Дык вось, вяртаючыся да тэмы нашай гутаркі, якія "плады" мне, як чытачу, пры гэты вельмі заўзятаму чытачу, можна "зьняць і зьесьці" з гэтага "дрэва". Пазьбягаючы алегорыяў, што мне, канкрэтнаму беларускаму чытачу, можна набыць і пачытаць зь беларускай літаратуры. Скажаць, што кнігі беларускай белетрыстыкі, а менавіта пра яе я і вяду гутарку, не друкуюцца і не выходзяць, было-б адкрытаю хлусьнёю. Кнігі беларускай мастацкай літаратуры працягваюць выходзіць ў Беларусі. Хай сабе і не шматтысячнымі накладамі, але друкуюцца.

Значыцца ня ўсё так дрэнна? Значыцца літаратура жывее? Але тут вельмі цяжка даць адназначны адказ. Калі друкуецца накладам па трыста асобнікаў, як тады? Так, такі стан інакш як "ні жывы, ні памерлы" назваць цяжка.

Задаеш пытаньні беларускім пісьменьнікам і атрымліваеш адказ, што наклады такія маленькія, бо такі попыт. А чаму такі попыт невялікі? Давайце зробім невялікае матэматычнае дасьледаваньне. Увесь час кажуць, што, маўляў, у Беларусі ёсьць 20% нацыянальна-сьведомага насельніцтва. Ну вось давайце палічым. 20% ад 10-ці мільёнаў дасьць нам два мільёны. Ад іх адкінем тры чвэрці (жонкі й дзеці). Застаюцца 500000 спажыўцоў. Ну хай сабе толькі 20% адсоткаў зь іх могуць сабе дазволіць набыць кнігу, то атрымліваецца стотысячны натоўп спажыўцоў. Ну добра, зьменшым і яго ў два разы. Усяроўна застаецца пяцьдзесят тысяч спажыўцоў. Дык чаму наклады па трыста асобнікаў?

Калі ізноў мне скажуць пра нясьведамасьць беларускага чытача, ці пра ягоную эканамічную беднасьць, то я і тады дазволю не пагадзіцца. Бо адведваў я, падчас маёй вандроўкі па Беларусі ў 2000-м годзе, шмат каго зь беларусаў. І ня пераставаў дзівіцца, як мірна ўжываліся на адной кніжнай паліцы кнігі "Беларуская Кнігазбору" (зусім нетанныя) і расейская баявікі Бушкова ды расейскія пераклады амэрыканскіх фантастаў. Менавіта адна пабачаная там кніга з майго любімага жанру "альтэрнатыўнай гісторыі" й падштурхнула мяне самога ўзяцца за пераклады. Але ня бачыў кнігаў сучаснай беларускай літаратуры. Гэта прымусіла мяне задаваць пытаньні.

Адказы, якія я атрымаў, можна зьвесьці ў адзін сказ з трох словаў: "Беларуская літаратура - нудоціна." Я, вядома, не пагаджаўся, прыводзіў прыклады Караткевіча, Маўра і... Вось на гэтым "і" я і спыняўся, бо больш ня мог згадаць. Пачаў цікавіцца, пачаў задзіраць пісьменьнікаў на розных беларускіх форумах. І вось з майго двухгадовага дасьледаваньня паўстала зусім няпрыгожая карціна: сучасная масавая беларуская літаратура адсутнічае.

Нельга казаць, што ў нас няма таленавітых пісьменьнікаў, якія здольныя гэтую літаратуру ствараць. Дык у чым-жа тады справа? А справа, як мне падказаў адзін з маіх сяброў-пісьменьнікаў, зусім простая. Шмат беларускіх літаратараў жывуць з таго, што пішуць ці выдаюць расейскамоўную масавую мастацкую літаратуру. А выклаўшыся, - бо расейскія выдавецтвы халтуры й "нудоціны" ня прымуць, тым больш не заплацяць грошы, - на рэштках таленту пачынаюць ствараць беларускую белетрыстыку, бо трэба-ж нацыянальны абавязак выканаць і даказаць сабе і іншым, што ты беларускі патрыёт. І гэта толькі адная з прычынаў.

Здаецца, справа ўжо зусім безнадзейная. Але я-б не стаў рабіць такі змрочны прагноз. Бо апрача гэтага бачу, як падрастае новая генэрацыя беларускіх пісьменьнікаў, якія ствараюць беларускую вострасюжэтную літаратуру. З узорам такой літаратуры чытачы газэты "Беларус" і мелі магчымасьць пазнаёміцца ў папярэднім нумары газэты. Мы, беларускія эмігранты, можам і павінны далучыцца сваім цяжка зробленым далярам да зьяўленьня гэтай кнігі ў сьвет. Бо Беларускае Нацыянальнае Адраджэньне пераможа тады, калі беларусы па ўсяму сьвету будуць набываць і чытаць беларускія кнігі. А як іх набываць, калі іх чытаць нецікава?

*Раман КАРДОНСКІ*

# Генадзь ДУБЯГА
## (25.06.1938 - 03.06.2003)



Нарадзіўся ў вёсцы Слабодка на Вілейшчыне. Адыйшоў ад нас на 64-м годзе свайго жыцьця. 43 гады пражыў у Іст Брансвіку, штат Нью Джэрзі, і апошнія некалькі гадоў у Монтроз у Пэнсыльваніі. Да свайго выхаду на пэнсыю 15 гадоў таму, ён на працягу 30 гадоў працаваў брыгадзірам у цэху вязальных машынаў на фабрыцы Algrow Knitting Mills. Генадзь быў добрым вернікам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы й належаў да парафіі Сьв. Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку, дзе быў даўгагадовым сябрам царкоўнай рады й яе старшынём.

Пакінуў у смутку дачку Таісу Тутл і яе мужа Лэса, унучку Ніколь Тутл, сына Генадзя Дубягу-малодшага, брата Віктара Дубягу з жонкаю Алаю, пляменьніка Стэфана Дубягу з жонкаю Лоўан і дзьве пляменьніцы Кацю і Лану Дубяга, таксама ўнука Мацея і ўнучку Эмілі Дубяга.

Пахаваньне выканаў айцец Вячаслаў Логін на магілках Сьв. Божай Маці Жыровіцкай у Іст Брансвіку.




## СВАБОДУ ЎСІМ ПАНЯВОЛЕНЫМ НАРОДАМ!
## 45-ы
### ШТОГАДОВЫ ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

**НЯДЗЕЛЯ, 20-га ЛІПЕНЯ**

**9.00** Збор удзельнікаў на скрыжаваньні 59-й вуліцы й 5-й Авеню (Plaza Hotel) на Мангэтане.
**10.00** Сьв. Імша ў Катэдры Сьв. Патрыка.
**11.00** Парад па 5-й Авеню да 72-й вуліцы ў Цэнтральным парку.
**12.00** Афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў.

**ЧАЦЬВЕР, 24-га ЛІПЕНЯ**

**11.00** Дэманстрацыя перад будынкам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, 42-я вуліца і Першая Авеню на Мангэтане.

**НЯДЗЕЛЯ, 27-га ЛІПЕНЯ**

**2.00 папаўдні** Цырымонія закрыцьця з малітваю ў лютаранскай царкве па адрасу: 122 E. 88th St. (на рагу Лексінгтон Авеню). Пасьля малітвы будзе прыняцьце з удзелам афіцыйных асобаў і пачастункам.

**Далучайцеся да беларускай дэлегацыі! Чакаем Вас ля гатэлю PLAZA на Мангэтане а 9-й гадзіне раніцы.**

---

**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

**Выйшаў з друку й прадаецца новы том з сэрыі "Беларускія паэты й пісьменьнікі" АНТОН АДАМОВІЧ. ТВОРЫ**

**Зьмест 800 бачынкавага збору твораў уключае найбольш важныя для асэнсаваньня творчасьці самога навукоўца й ўсяе гісторыі нашае літаратуры наступныя працы А. Адамовіча: "Паўлюк Трус", "Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры", "Так пяяў Салавей", а таксама дзьве Адамовічавы аўтабіяграфіі, 1935 і 1941 гадоў.**

**Том дапаўняюць нарыс рэдактара і ўкладальніка кнігі Лявона Юрэвіча, а таксама бібліяграфія твораў А. Адамовіча ды іменны паказьнік.**

**У кнізе зьмешчаны ўнікальныя архіўныя здымкі з збораў БІНІМу й прыватных архіваў. Большасьць зь іх друкуецца ўпершыню.**

**Кошт кнігі $ 30. Замовы дасылаць на адрас Інстытуту:**

*Belarusan Institute of Arts and Sciiences*
*1797 Buttonwood Ave., Toms River, NJ 08755* Attn: Vitaut Kipel

## Купальле ў Нью Ёрку

*Заканчэньне з бач. 5*

Адная дзяўчына запытала мяне, як я стаўлюся да року. Яна, відаць, добра арыентуецца ў гэтым жанры, а вось з сваёй нацыянальнай традыцыйнай культурай амаль незнаёмая. Дый адкуль гэтым маладым людзям ведаць, што фальклёр самадастатковы, і ў ім можна жыць, што і прафэсыйная клясычная ды эстрадная музыка бярэ свае вытокі з фальклёру.

Добра, што моладзь прыйшла на Купальле. Шкада толькі, што ня маючы глыбокай нацыянальнай сьведамасьці, выхаваньня, яна, здаецца, так і не зразумела тую высокую духоўную напоўненасьць сакральных дзеяньняў Купальля.

Але можа ўсё-ж у некага з прысутных на сьвяце маладых людзей запала зерне цікавасьці да нашай народнай культуры й некалі яно прарасьце буйным коласам.

*Валянціна ЯКІМОВІЧ*

## Пошук сваякоў

**Мы шукаем нашчадкаў нашага сваяка, які пакінуў Беларусь (вёска Гарадзец на Кобрыншчыне) яшчэ да Другой Сусьветнай вайны. Звалі яго Нічык Сямён сын Яўсея, 1890-га году нараджэньня, (здымак справа), у якога было чацьвёра (ці болей) дзяцей, тры сыны загінулі на вайне, а малодшы Пётра Нічык, 1935-га году нараджэння, ажаніўся (здымак зьлева). Ведаем, што ў аднаго з сыноў была дачка (унучка Сямёна ) Караліна. У 60-х гадох мы атрымалі ад іх ліст (нажаль, згубіўся) з Нью-Ёрку, падпісаны Sam Nixik.**

**Шукаюць іх Ханцевіч (Нічык) Надзея Аляксандраўна (пляменьніца Сямёна), яе старэйшая дачка Раіса і ўнук Віктар.**

**Кантактны адрас:** ***Сокал Віктар Аляксандравіч***
***вул. Савецкая, 134, кв. 32***
***г. Брэст 224030 BELARUS***







*Выказваем падзяку Ірыне Варабей, Юрыю Весялкоўскаму, Уладзімеру Дзехцяруку, Уладзімеру Лемеху, Міхасю Швэдзюку, Лявону Шураку за дасланьня ў рэдакцыю матар'ялы.*

### На выданьне ангельска-беларускага слоўніка ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Кастусь Ворт | $100 |
| Марат Клакоцкі | 100 |
| Антон Маркевіч | 100 |
| Лявон Шурак | 100 |

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Г. Кананчук | 50 |
| М. Сіцько | 50 |
| М. Сенька | 40 |
| І. Букач | 30 |
| А. Драпеза | 30 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 30 |
| Т. Кліменка | 30 |
| Л. Колін | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| П. Грыгальчык | 10 |

**Замест кветак на магілу Багдана Стуса**

| | |
|---|---|
| К. і Я. Вініцкія | 100 |

**Усім шчыры дзякуй!**


# БЕЛАРУС
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
***Выдае штомесячна:***
***БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***
**Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org***
***Падпіска $30 на год.***
***Чэкі выпісвайце на BIELARUS***

# BIELARUS
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by***
***BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***
***Make checks payable to BIELARUS***

***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*




**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org